# Тыдзень Паняволеных Народаў у Ню Ёрку

Ніжэй *Беларускі Час* друкуе прамову Сп. Ігара Сінявіна, якую ён прыслаўда рэдакцыі нашай газэты.

Ягоная прамова гэта – публічнае выступленьне на мітынгу паняволеных народаў 24га ліпеня 1977г. каля статуі Свабоды ў Ню Ёрку.

Ігар Сінявін – расейскі дысыдэнт, які падтрымлівае ідэю поўнага нацыянальна - палітычнага вызваленьня Беларусі й іншых паняволеных камуністычнай Масквою народаў. Ягоны артыкул: „Аснова да супрацоўніцтва" быў зьмешчаны ў 10м нумары газэты *Беларускі Час.*

Тэкст прамовы:

Штогодняя дэманстрацыя, якая праводзіцца каля статуі Свабоды, прыпамінае сьвету, што чалавецтва яшчэ несвабоднае. Сьвет толькі тады будзе свабодным, калі будзе свабоднай кожная нацыя, кожная асоба.

Толькі свабодным народам, уладаючымі поўнай сувэрэннасьцю, можна прапанаваць уступіць у большыя або меньшыя аб'еднаньні. Толькі незалежныя нацыі можна задзіночыць у координацыйную адзіную сувэрэнную судружнасьць.

Паняволеньня народаў ажыцяўляецца цяпер у трох узаемнапалучных формах:нацыянальна-расавай, эканамічнай і ідэялёгічнай.

Кожная ўлада, кожны ўрад прыгнятаючы свой або чужыя народы, павінен памятаць, што пакараньне яго раней ці пазьней наступіць. Аб гэтым павінен помніць кожны, які паддаўся спакусе панявольваць іншыя народы. Паняволеныя народы ня могуць стаяць з працягнутай рукою й спадзявацца літасьці. Яны павінны здабыць сваю свабоду самі. Дзеля гэтага ім у першую чаргу трэба задзіночыцца.

Кожны чалавек бяз розьніцы колеру свайго твару й сваёй рэлігіі, здабудзе свабоду й маральную вартасьць, удзейнічая ў гэтай шляхэтнай барацьбе.

У імкненьні народаў к свабодзе й незалежнасьці заложана аграмадная сіла. Яна значна большая за ўсе атамныя бомбы й усе накопленыя ўзбраеньня ў сьвеце.

Апіраючыся на гэтую сілу, чалавек наблізіць сьвет к царству Красы, Свабоды й Шчасьця. *– І. Сінявін*

# у Мэльбурне

У Мэльбурне, Аўстралія, ад 17га да 24га ліпеня, 1977г., урачыста адзначаўся тыдзень паняволеных народаў. У гэтым годзе ўрачыстасьць уключала:

(1) У нядзелю, 17га ліпеня, у найбольшай катэдры гораду быў адслужаны Малебен з удзелам шматлікага духавенства ўключна з Настаяцелям памеснай Парахвіі БАП Царквы, Прат. Аляксандрам. Падчас Малебна ў Катэдры, у нацыянальных вопратках, з дзяржаўнымі сьцягамі, стаялі прадстаўнікі 14ці нацыянальнасьцяў уключна з беларусамі, ды вялікай колькасьцю людзей. Пры канцы Малебна чыталася малітва за церпячыя народы ў мовах прысутных – браўшых удзел народаў. На беларускай мове, Малітву прачытала Сп-чня Ірэна. Малебен закончыўся добраслаўленьнем Лютаранскага, Праваслаўнага й Рыма-Каталіцкага духавенства. Ад Праваслаўнага духавенства добраславіў прысутных на Малебне Прат. Аляксандар, Настаяцель Парахвіі БАПЦарквы ў Мэльбурне.

(2) 20,21 і 22га ліпеня ў гарадзкой залі (Town Hall) этнічнымі групамі была зладжаная выстаўка. Трэба адзначыць, што Беларускі стэнд, багатымі й умела разьмешчанымі экспанатамі карыстаўся бадай найбольшай колькасьцю гледачоў – наведальнікаў.

(3) 24га ліпеня быў зладжаны вельмі ўдачны этнічны канцэрт.

***

У Мэльбурне, Аўстралія, добра ведамая арганізацыя „Добра-Суседзкіх Суадносін" (Good Neighbor Council), абвесьціла 1977 год годам „Этнічных народаў" у штаце Вікторыя. З гэтае нагоды шматлікія нацыянальнасьці ладзілі канцэрты, песьні, танцы, выстаўкі пасуды, вопраткі, арнамэнтаў і кніжкі...

На пачатку сакавіка, Мэльбурнская Парахвія БАПЦарквы выкарыстала нагоду – пазнаёміла колькасьць гледачоў з нашымі здольнасьцямі. Чатыры маладыя танцоркі, Марыя, Ірэна, Вера й Ірэна, са сваім маладым акардыяністам, пацешылі гледачоў народнымі танцамі. З задаваленьнем трэба адзначыць, што нашыя маладыя танцоркі ў прыгожых нацыянальных касьцюмах, па-мастацку выканалі некалькі беларускіх танцаў, за што атрымалі ад прысутных найбольшае ўзнаньне, ды належную ўзнагароду.

## МАЛІТВА

*прачытаная Сп-чняй Ірэнай, 17.7.1977 году, падчас Малебна*

„Усемагутны Божа, Уладару Нябесны! Мы дзеці Твае, пакорна просім помачы Твае; Пашлі Тваю Боскую Ласку й апеку народу Беларускаму. Абдары Сьвятым Тваім Духам, мудрасьцю й вытрываласьцю тых, хто з надзеяй на помач Тваю бароніць Бацькаўшчыну й народ наш і ўсе народы. Скарацi час цярпеньняў усіх паняволеных народаў. Усіх хто аддалі жыцьцё сваё за веру й праўду ўпакой у Валадарстве Тваім, Нябесным. Няхай цудоўнае імя Твае, Божа й Спасе наш, пануе й зьяе ў сэрцах нашых і будзе добраслаўленае цяпер і на векі. Амін."

*– а. Аляксандар*



*Мэльбурнскія маладыя танцоркі. Зьлева направа: Ірэна, Вера, Ірэна й Марыя.*

# 15-ці Годні Юбілей

Дня 28га травеня, 1977г., вернікі Мэльбурнскае Парахвіі сьв. БАП Царквы зрабілі неспадзеўку – зладзілі супольны пачастунак – прыняцьцё свайму настаяцелю Мітраф. Прат. а. Аляксандру, для адзначэньня 15–ці годняе Ягонае сьвятарскае службы.

У вызначаным часе, Настаяцель з Матушкай і дочкамі (удзельнікі хору) прыехаў, бо быў паклíканы на чарговую сьпеўку царкоўнага хору, і, толькі тут выявілася прычына сьпеўкі... На зьдзіўленьне, замест пару-дзесяткаў рэгулярных сьпевакоў, Настаяцеля й Матушку зустрэў сьпеў звыш сотні харыстаў – Многія Лета...Прывітаньні, прамовы, добрапажаданьні, тосты... „Месца сьпеўкі" асьветлена рознакаляровымі лямпкамі. Шматлікія сталы перапоўнены смачнымі стравамі, прыгатаванымі ўмелымі, няўтомнымі рукамі нашых руплівых жанчын. Ведама, мужчыны ў сваю чаргу, патурбаваліся пра напіткі. Хутка пачуліся сьпевы народных песьняў, шумныя сяброўскія гутаркі... а моладзь, на кліч музыкі адказала заўзятымі танцамі. У адпаведным часе спынілася музыка, заціхлі шумныя сьпевы – гутаркі. Перад Настаяцелям і Матушкай зьявіўся вялічэзны, ўмела – памастацку аздоблены каравай з надпісам: „Кангратуляцыя, 15ці годняе службы, Парахвія БАПЦ." Старшыня Парах. Рады, ён-жа й кіраўнік царкоўнага хору, Сп. Аўген, у кароткай але зьмястоўнай прамове, прывітаў Настаяцеля, падзякаваў за ахвярную службу, пажадаў добрае будучыні ды ад імя вернікаў уручыў Настаяцелю падарунак – каштоўны ручны гадзіньнік. Сястра Ірэна ўручыла Матушцы вялікі, з жывых кветак, букет.

У адказ на лічныя вітаньні-добрапажаданьні, Настаяцель падзякаваў прысутным за неспадзеўку – зладжанае прыняцьцё, каштоўны падарунак ды шчырыя пажаданьні на будучыню. Сьвятар сказаў, што нашая будучыня залежыць ад нашага мінулага й нашай сучаснасьці. Пра нашае мінулае й нашае сучаснае Вы добра ведаеце. Нягледзячы на абставіны, Парахвія асягнула сваю мэту. Нас пазналі з добрага боку. Нас рэспэктуюць, з намі лічацца, з нас бяруць прыклад. Ведама, бяз Вашае дапамогі, высілку, вытрываласьці, пашаны, а перад усім, зразуменьня нашых абовязкаў да пераховаўньня нашых звычаяў і традыцыяў, пра асягненьні нельга было-б і думаць. Доказы на мейсцы. Паглядзіце навакол сябе й пабачыце. Нашая моладзь сярод нас. А хіба-ж гэта ня ёсьць нашым асягненьнем? Хіба-ж гэта ня ёсьць нашай зарукай на надзейную будучыню? Так! Мы можам ганарыцца нашымі дацяпера-шнімі асягненьнямі, ды ня будзем скупіцца з высілкамі для далейшых асягненьняў, што будуць Угоднымі Богу, карыснымі нашай Парахвіі й БАПЦаркве наагул, ды пацяшаючымі нашых сумленных суродзічаў і ўсіх людзей добрае волі!

Далей, сьвятар з дапамогаю трох юнакоў (царкоўных прыслужнікаў) разрэзалі каравай – і йзноў супольным сьпевам „Многія Лета" Настаяцелю, Матушчы, прыслужнікам, Парах. Радзе, арганізатарам прыняцьця, Сястрыцтву ды гаспадаром дому, у якім і было зладжанае прыняцьцё.

І так удзельнікі не заўважылі, як надыйшла поўнач – час разьвітаньня. Гэта доказ сьведамасьці бацькоў, што ў сваю чаргу паслужыць як аснова нашае будучыні, а гэта ведама – цэнны ўклад у наш нацыянальны скарб, здароваду маючых бацькоў, каторыя маюць права ганарыцца сваімі нашчадкамі, ды ўпэўнена чакаць на заслужаную ўзнагароду.

## Ад РЭДАКЦЫІ

Рэдакцыя газэты *Беларускі Час* просіць прысылаць рукапісы, па магчымасьці, надрукаваныя на машынцы праз два інтэрвалы, пакідаючы на полі кожнай бачынкі з усіх бакоў незапісанымі, прынамся адзін інч (2.5 цм).

Замест фотаздымкаў, пажадана прысылаць клішы, якія будуць зьвернуты.

Невыкарыстаныя рукапісы будуць зьвяртацца толькі на просьбу аўтара.

# Экстрэмізм і Дамоўленасьць

Закон грамадзкага разьвіцьця ведае толькі адзіны пазытыўны кірунак – АРГАНІЧНЫ, калі ўсялякая людзкая дзейнасьць рэгулюецца рацыянальна-дэмакратычнымі прынцыпамі.

У нас, на вялікі жаль, часта практыкуецца іншы кірунак у грамадзкім палітычна-гаспадарчым жыцьці ды які завецца – КРЫТЫЧНЫМ.

Гэткі пэрыяд гістарычнага разьвіцьця грамадзтваў, апіраецца на моцнай аўтарытатыўнай аснове адзінкі або невялічкай групы людзей, добра зарганізаваных ды ідэялёгічна цесна павязаных паміж сабою.

Калі зьместам натуральнага пэрыяду грамадзка-палітычнага жыцьця ёсьць узрост, росквіт, прагрэс, справядлівасьць і свабода, то зьместам крытычнага пэрыяду – занепад цывілізацыі наагул.

Таму гісторыя беларускага народу маець даўгія пэрыяды, так званага, нэгатыўнага ўзросту.

Экстрэмізм – гэта антыдэмакратычная палітычная дактрына, абаснаваная на веры ў канфлікт. Ён не заўсёды стаіць на шляху да ўзгодненьня спорных пытаньняў, якія паўстаюць паміж двумя ці некулькімі палітычнымі групамі ці грамадзкімі ассоцыяцыямі.

У той час, калі экстрэмізм уважае, што грамадзкі канфлікт ёсьць нясумешчальным, ды што разьвязка супярэчных пытаньняў (апазыцыі ці інакшдумаючых) можа быць або поўная перамога або поўная дэструкцыя апазыцыйных групаў. У такіх выпадках можа быць толькі поўнае падпарарканьне аднэй часткі грамадзтва другой.

Як мы ўзіраемся на справу супрацоўніцтва аднэй грамадзкай групы з іншымі?

Візыя беларускага грамадзтва – гэта моцны зарганізаваны арганізм, калі ўсе спорныя пытаньні вырашаюцц згодна, на аснове дамоўленасьці паміж сабою ды пабудаваны на шырокіх прынцыпах свабоды й справедлівасьці.

*– Др. В. Новак*

### ЗАПРОСІНЫ

**У нядзелю, 13га лістапада г.г. Парафія Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, супольна з Парафіяй Жыравіцкай Божай Маці ў Гайлэнд Парк, Н. Джэрзі, з нагоды 562х угодкаў Вялікага Сабору ды заснаваньня Наваградзкай Мітраполіі ВЛАПЦ (БАПЦ), ладзяць супольную Божую Службу, а потым супольны абед.**

**Божую Службу ачоліць Яго Эксцэленцыя Арх. Ул. Мікалай у саслужэньні Прат. Карпа й а. Александра. Царкоўная Служба пачнецца, а гадзіне 10ай раніцы на якую запрашаем усех парафіянаў ды ўсіх знаёмых беларусаў.**

*Прат. Васіль Кэндыш,*
*Настаяцель Сабору*
*Парафіяльная Рада*



Сп. **Уладзімер Бортнік** адведаў некаторыя беларуска-грамадзкія асяродкі ў ЗША й Канадзе. Сп. У. Бортнік ёсьць Упаўнаважаным Прадстаўніком Старшыні Рады БНР на Нямеччыну. Пасьля адведзін Старшыні Рады БНР, Спадара Др. Жук-Грышкевіча, Сп. Бортнік хутка адляцеў да Эўропы.

# БЕЛАРУСКАЕ ПАСЕЛІШЧА Ў ДОРАТЫ



*Праект царкоўнага будынку ў Дораты.*

У папярэднім нумары гэтае газэты быў зьмешчаны „Зварот" БАПЦ аб ахвярах на пабудову галоўнага будынку БАПЦ пры Парафіі ў Дораты, Н. Дж., для патрэбаў нашае Царквы й магчыма стварэньня там беларускага паселішча. Пры канцы чэрвеня й ліпеня г.г. Кансысторыя выслала ўсім парафіянам БАПЦ і, паасобна аселеным беларусам, „Зварот" з просьбай ахвяраў на гэтую мэту.

Кансысторыя хоча падаць да ведама, што мы, ня толькі жадаем пабудаваць адзін будынак на зямлі Парафіі ў Дораты на свае патрэбы, але й можам дазволіць будаваць там і паасобныя будынкі ў большай колькасьці. Ужо цяпер, некаторыя нашыя людзі, адыходзячы на пэнсыю, пакідаюць большыя гарады й шукаюць месца з лепшым паветрам, купляюць сабе дамы ці кватэры ў чужых асяродках. Нам здаецца, што беларусы могуць мець месца ў Дораты й разбудаваць сваё паселішча. Тыя, якія маюць матэрыяльныя сьродкі, могуць дамаўляцца з Кансысторыяй аб пабудове для сябе дому на парафіяльнай зямлі, або купіць сабе зямлю ў Дораты недалёка ад Парафіі БАПЦ. Для іншых могуць быць пабудаваны памешканьні паводле замоўленьня, як гэта робяць іншыя нацыянальныя групы ў ЗША.

У аснаўным, беларуская эміграцыя добра ўладзілася ў ЗША й абясьпечаная, аднак пад поглядам ахвярнасьці на разбудову свайго цэнтру ў вольным сьвеце, існуючага на аснове 39 канону 6га Ўсяленскага Сабору і, юрыдычна аформленай Беларускай Аўтакафальнай Праваслаўнай Царквы – ахвярнасьць вельмі сьціплая. Нашая праваслаўная эміграцыя, пры глыбейшым зразуменьні сваіх агульна-нацыянальных патрэбаў, магла-б мець далёка лепшыя вынікі. Мы не павінны спадзявацца, што хтось іншы будзе працаваць за нас. Працуючы самі для сябе можам асягнуць лепшыя вынікі. Дык узварухнемся да большае актыўнасьці й братэрскае матэрыяльнае дапамогі, а Ўсемагутны Госпад Бог атуліць Сваёю Ласкаю й апекаю.

У справе Паселішча ў Дораты просім зварочвацца да Кансысторыі БАПЦ на адрас:

Very Rev. Vasil Kendysh
73 Narraganset St.
Springfield, Mass. 01107

# ПАД ЧАС ВАЙНЫ Й У ЧАСЕ СУПАКОЮ

Яны йдуць – змучаныя, разчараваныя, уцякачы ад камунізму.

Весткі аб іх мала расходзяцца, хоць, штогоду, дзясяткамі тысяч пераходзяць граніцу з Усходняй Эўропы, з Кітаю й Індо-Кітаю ды йдуць да вольных краінаў сьвету.

Іхная колькасьць ёсьць невялікая ў параўнаньні да 24 міліёнаў асобаў, якія ўцяклі ад камунізму ў 1945–1964 гадох. Сяньня ўцякаць цяжэй, але ўсёроўна яны йдуць.

Некаторым удаецца перамагчы амаль неабмежаваную колькасьць перашкодаў каб дастаць афіцыяльны дазвол на выезд. Іншыя просяць палітычнага азылю падчас падарожжа за граніцу, пакідаючы свае сем'і пад камуністычнай уладай.

Яшчэ іншыя ўнікаюць кулі, пераходзяць замінованыя палі, пералазяць праз барыкады, хаваюцца ад пагранічнай стражы, пераплываюць рэкі, або тыднямі плаваюць па акіяне ў маленькіх лодках, толькі каб уцячы на свабоду ад камуністычнага нявольніцтва.

### З Усходняй Эўропы

Штогоду прыблізна 70 000 чалавек уцякае з Усходняй Эўропы да Заходніх краінаў. Многія, асабліва савецкія Жыды й Немцы, з цяжкасьцямі, але дастаюць афіцыяльны дазвол на выезд.

Ад 1970 году 125 500 Жыдоў выехала з Савецкага Саюзу. Кожны год тысячы Немцаў выяжджае з Савецкага Саюзу, Усходняй Нямеччыны, Польшчы, і Чэхаславакіі да Заходняй Нямеччыны.

У дадатак да гэтых „лягальных" уцякачоў, цячэ паток „нелягальных" уцякачлў. Дакладная колькасьць іх старанна скрываецца. Камуністы зусім не прызнаюцца, што нехта хацеўбы ад іх уцячы, а Заходнія краіны не публікуюць сваёй статыстыкі бо ня хочуць псаваць адносін з Масквою й іншымі камуністычнымі рэжымамі.

### З Усходняй Нямеччыны

Ведама аднак, што штогоду, прыблізна 6000 чалавек – пераважна з Усходняй Нямеччыны – уцякае да Заходняй Нямеччыны, 1000 да Швайцарыі, 600–700 да Францыі й Меньшыя колькасьці да Аўстрыі й Італіі.

За апошніх 15 гадоў, каля 170 000 Усходніх Немцаў уцяклі да Заходняй Нямеччыны. Лікі за некалькі апошніх гадоў наступныя: 5324 ў 1974 годзе, 6011 у 1975 годзе, і 4379 за першых 10 месяцаў 1976 году.

Некаторыя, атрымаўшы часовы візытовы пропуск у Заходнюю Нямеччыну, назад не вяртаюцца. Але сотні пробуюць уцячы ў іншы спосаб, пранікаючы праз сьмяротныя бар'еры, якія дзеляць Нямеччыну на дзьве часткі.

Каб уцячы на Захад, Усходні Немец павінен перамагчы адну з найбольш скамплікаваных сыстэмаў бар'ераў, што калі колечы была пабудавана, каб утрымаць народ у няволі. Найлепш вядомая нам бар'ера, гэта стальная й цэмэнтовая Бэрлінская Сьцяна. Але ўцякачом больш пагражае масса платоў, вартаўнічых вежаў, бункероў, й пражэктараў, якія заінсталёваны па цэлай 1340 км. граніцы паміж Заходняй і Усходняй Нямеччынай. Уздоўш цэлай граніцы (за гарадамі) шырокім пасам зьнесяны ўсе дрэвы й будынкі. Толькі „палітычна даверапыя" жыхары могуць жыць бліжэй як 15 км. ад граніцы.

Вялікія часткі пагранічных земляў засеяныя мінамі. Іншыя мейсцы сьцярагуцца выбухавымі апаратамі, якія раскідаюць шрапнэль у ўсех кірунках, калі хто пацягне за расцягнуты й прыхованы дрот. Больш як 10 000 чалавек Усходня-Нямецкай стражы пільнуе граніцу з сабакамі.

Колькі Усходніх Немцаў няўдала прабавала перайсьці граніцу, застаецца камуністычным сакрэтам. Але

*Працяг у наступным нумары.*

# КАМУНІКАТ

## БЕЛАРУСКАЙ КАТАЛІЦКАЙ МІСЫІ Ў ВЯЛІКАБРЫТАНІІ



У чацьвер 28 ліпеня 1977 г. ў шпіталі імя Нэкэр у Парыжы (Rue des Sevres, 149) пасьля цяжкой аперацыі памёр Айцец Архімандрыт Леў ГАРОШКА, Рэктар Беларускай Каталіцкай Місыі ў Францыі, Кіраўнік беларускіх радыяперадачаў у Ватыкане, сябра Галоўнай Управы *Хаўрусу* ў Парыжы. Айцец Леў выехаў з Рыму 22.7.1977 ў Парыж, 23.7быў прыняты ў шпіталь, 26.7 адбылася аперацыя (камні ў нырках), 28.7 каля гадзіны першай з паловай па паўдні (франц. часу) памёр.

Айцец Архімандрыт Леў пакінуў па сабе добрую памяць сярод сяброў Закону Айцоў Марыянаў, сярод дарагіх яму беларусаў у Францыі, Вялікабрытаніі і ва ўсім сьвеце. Быў ён шанаваны таксама сярод чужынцаў.

Леў Гарошка радзіўся 26 лютага 1911 г. ў вёсцы Трашчыцы, у павеце Стаўпецкім. Ахрышчаны быў у царкве ў Турцы. Сям'я Харашкоў (гэтак калісь называліся Гарошкі) жыла здаровымі, стойкімі хрысьціянскімі прынцыпамі. Пачатковую асьвету а. Леў атрымаў у Міры. Пасьля матуры ў Беларускай Гімназыі ў Наваградку а. Леў выязджае ў Львоў, дзе студуе тэалёгію ў Украінскай Духоўнай Сэмінарыі на працягу пяці гадоў. Па заканчэньні студыяў у Львове, а. Леў едзе ў Аўстрыю, ды там у Інсбруцкім Унівэрсытэце паглыбляе свае веды.

Яшчэ будучы ў Львове, а. Леў захапіўся буйным узростам украінскай кооперацыі. Па сваім павароце дамоў, у Наваградчыну, ён разам са сваім бацькам ды старэйшым братам распачынае актыўную працу засноўваючы спажывецкія й малачарскія коопэратывы.



*Айцец Архімандрыт Леў Гарошка*

Сьвятаром быў высьвячаны 17 кастрычніка 1937 г. у Львове, а першую св. Літургію служыў у Дэлатычах. У час апошняй вайны, між іншым, працуе ў мэдыцынскай школе ў Баранавічах. Пасьля вайны прыяжджае ў Рым (1945 г.), а ў 1956 едзе ў Парыж і там арганізуе рэлігійны беларускі асяродак, выдае *Божым Шляхам*. У 1959 г. ўступае ў Закон Айцоў Марыянаў, а ў 1960 едзе ў Лондан і назначаецца Супэрёрам „Marian House". 16 сьнежня 1965 г. Апостальскі Пасад надае яму годнасьць Архімандрыта. Ад 1970, пасьля выхаду пралата П. Татарыновіча на пэнсію кіруе сэктарам беларускіх Ватыканскіх радыяперадачаў.

Са сьмерцю Архімандрыта Льва адышоў ад нас сумленны пабожны сьвятар, усёстароньні працавіты пісьменьнік, змагар за лепшую долю беларускага народу. Сярод яго спадчыны асталося шмат цэнных кніжак, імжа перададзеных у Беларускую Біблятэку імя Ф. Скарыны ў Лондане, а таксама шмат ім самым напісаных і выданых друкаў. Апошняй ягонай працай ёсьць *Рэлігія й навука*, якая вышла за тыдзень перад ягонай аперацыяй.

Служыў верна Богу, Царкве й Бацькаўшчыне. Маем надзею, што асягнуў тое, дзе ўжо няма больш турботаў, дзе вечны супакой і дзе нарэшце і наш дарагі Леў адпачыне... Вечны супакой дай яму Госпадзе!

# Спатканьне із Сэнатарам Бэйтманам



*Прадстаўнікі Беларускіх рэспубліканскіх клюбаў Штату Ню Джэрзы із Сэнатарам Р. Бэйтманам. Зьлева направа: Сп-ня Зора Кіпель, Сп. Сяргей Гутырчык, Сп-ня Януш, Сп-ры Сяргей Касьцюк, Міхась Бахар, Сэнатар Бэйтман, Сп-ры Юрка Азарка, Віталі Цярпіцкі, Юрка Навумчык, Сьцяпан Навумчык і Др. Вітаўт Кіпель.*

18 верасьня ў горадзе Кларк, Штат Ню Джэрзы, адбылася сустрэча прадстаўнікоў нацыянальных рэспубліканскіх клюбаў із кандыдатам у губэрнатары Сэнатарам Рэям Бэйтманам.

Пасьля вымены думак у справах адукацыі ў штаце, прамысловага разьвіцьця, і г.д., Сэнатару Бэйтману была ўручаная кніжка *Этнічнае Дасьветчаньне ў Ню Джэрзы*, дзе ёсьць артыкул пра Беларусаў і вокладка кніжкі з абразом П. Мірановіча „Беларускія імігранты".

# Заўвагі да Нарысу Юркі Віцьбіча

Заўвагі да нарысу Юркі Віцьбіча – *Вернецца Лань у свае рэчышча*, зьмешчанага ў газэце *Беларус* № 200 за сьнежань 1973 году.

/.../ Цяпер Клецкія бромы ўзяты пад дзяржаўную апеку, здымак зь іх зьмясьціла на сваіх старонках БелСЭ, але гэтае зусім не гарантуе ім захаваннасьці./.../

Клецкія бромы былі разабраны на пераломе 1941–1942 г.г.

/.../ Не дайшоў да сучаснасьці мураваны Клецкі замак, але захавалася Замкавая гара, што прылягаючы да Лані, узвышаецца на паўночна-ўсходняй ускраіне гораду, ды назвы бліжэйшых вуліцаў – Замкавае й Завальнае./.../

Замкавая гара ўзвышаецца на паўночна-заходняй ускраіне гораду. У Клецку была толькі адна вуліца – Завальная(за валам).

/.../ „У самым Клецку ёсьць, правільней была, Уваскрасенская царква рэнэсансавага тыпу (17 ст.), якіх наагул няма на Беларусі. Бязь ведама Міністэрства культуры БССР мясцовыя ўлады вырашылі ўсяліць туды нейкі цэх заводу"/.../

Мясцовыя ўлады ўсялілі ў царкву кмбінат бытавога абслугоўваньня.

Паколькі Уваскрасенская царква рэнэсансавага тыпу (17ст.), якіх наагул няма на Беларусі, можна меркаваць што царква, праўдападобна, была даўней касьцёлам, бяручы пад увагу наступнае:

1. Царква аўтарнаю часткаю зьвернутая на захад, што характэрна для каталіцкіх сьвятыняў, у адрозьненьня ад праваслаўных, зьвернутых на ўсход.
2. Прыбудоўка з левага боку аўтарнай часткі царквы служыла як закрыстыя.
3. Над прытворам ёсьць хоры, дзе знаходзіліся арганы.
4. Побач з царквою, насупраць аўтарнай яе часткі, знаходзіцца двухпавярховы мураваны, з тоўстымі сьценамі будынак, не аднойчы перабудоўваны, у якім на першым паверсе захаваліся скляпеньні й нішы, з чаго можна меркаваць, што гэта быў манастырскі будынак, праўдападобна, каталіцкага ордэну Дамініканаў. Апрача гэтага будынку напэўна былі іншыя, якія незахаваліся. Ордэн Дамініканаў актыўна дзейнічаў на Беларусі ў перыяд контррэфармацыі ў 17 ст., калі заснавалі манастыры ў 42х мясцовасьцях, у гэтым ліку й у Клецку. Пры манастырох былі школы. Амаль усе манастыры зачыніліся ў 1-ай палове 19га стагодзьдзя.
5. Архітэктурны стыль царквы з гонкімі вежавымі дахамі нагадвае заходні стыль каталіцкіх сьвятыняў эпохі рэнэсансу.
6. У 1921 або 1922 г., падчас наведваньня парафіяў Пінскім біскупам Лазінскім, каталікі Клецкай парафіі зьвярнуліся да яго аб перадачы ім Уваскрасенскай царквы, як былышага касьцёлу. Даведаўшыся, што вялізны Клецкі фарны касьцёл поўнасьцю задаваляе патрэбы вернікаў, што Уваскрасенская царква дзейная й шматлюдна наведваецца, адмовіўся ад передачы яе каталікам.

/.../ Пагроза зьнішчэньня, павод ля прапановы газэткі *Да новых перамог*, навісла над другім архітэктурным помнікам Клецку – тымчасова яшчэ дзейнай, старадаўнай, драўлянай Пакроўскай царквой/.../

Пакроўская царква не драўляная, а мураваная.

/.../ Пад склад вытворча-харчовага камбінату ўжыты цяпер вялізны фарны аднавежавы касьцёл на Слонімскай вуліцы,/.../

Фарны касьцёл знаходзіцца не на Слонімскай, а на Закасьцельнай вуліцы, раўналеглай да Слонімскай вуліцы.

/.../ Ужо па вайне разбурылі цікавую па свайму стылю драўляную мячэць і старую мураваную сынагогу, што была таксама на Слонімскай вуліцы/.../

Старая мураваная сынагога, як і два іншыя мураваныя будынкі сынагогі, згарэлі ў часе вайны пры ліквідацыі гета. Засталіся толькі абгарэлыя сьцены.

/.../ Так, усе гэтыя навучальныя ўстановы запраўды ёсьць, але й разам узятыя яны ня вартыя аднае Клецкае Беларускае гімназіі, хоць і праіснавала яна ўсяго з 1924га па 1931ы год./.../

Удакладненьне: Клецкая Беларуская Гімназія праіснавала з верасьня 1923 да чэрвеня 1931 году, улічваючы 1923/24 шк. год у Нясьвіжы.

– *М. Скрыннік*

# ПЕРАВЫБРАЦЬ СТАРУЮ...

Пад гэткім назовам зьмяшчаецца кароткі рэпартаж у справе „так званага", 17-га Кангрэсу БАЗА, які адбыўся 3-га верасьня ў Клывэлэнд, Огайё.

Прыгожае надвор'е, а ў Полацку, асабліва было прыемна, крыху адпачыць ды падыхаць сьвежым і чыстым паветрам.

Адзінаццатая гадзіна раніцы, а навокал цэнтральных будынкаў Полацка было ціха й бязлюдна. Падышоўшы бліжэй да кухні й сталовай мы спамкалі К. К., Матку нашай слаўнай салісткі Спадарыні Іры Каляда. Даведаўшыся, што Кангрэс распачнецца каля гадзіны другое, а можа яшчэ пазьней, мы вырашылі вярнуцца да свайго гатэлю ды пачакаць там да гадзіны першай.

### „Кангрэс без кангрэсмэнаў"

Кангрэс БАЗА, як вядома, арганізуе Галоўная Управа БАЗА разам са сваімі аддзеламі. Яны склікаюцца каждыя 2 гады ў травені месяцы на тэрыторыі Вялікага Ню Ерку. Сёляшні Кангрэс, зь невядомых меркаваньняў, адбыўся ў Клывэлэнд, ды на тры месяцы пазьней вызначанага тэрміну.

17-ы Кангрэс быў поўным пагвалчаньнем выбарных законаў: статуту, канстытуцыі БАЗА й інкарпарацыйных законаў.

### Як адбываліся перавыбары Старое Управы?

Агульны лік дэлегатаў БАЗА на апошніх дэлегацкіх зьездах выносіў 24–25 асобаў. Да гэтага ліку даходзіла, прыблізна, 9 прадстаўнікоў (урадоўцаў БАЗА).

Якая колькасьць дэлегатаў прыймала ўдзел на 17м Кангрэсе БАЗА? На гэтае, вельмі важнае й вырашаючае, пытаньне законнасьці або беззаконнасьці выбараў можна адказаць наступнымі лікамі прысутных на Кангрэсе дэлегатаў.

1. Ад Акругі Ню Ерку – ніводнага дэлегата,
2. ад Аддзелу БАЗА ў Ню Джэрзі – ніводнага дэлегата,
3. ад Аддзелу БАЗА Дэтройт – 2х дэлегатаў,
4. ад Аддзелу Клывэлэнд – 6 дэлегатаў.

Два дэлегаты з Дэтройту выступілі катэгарычна супраць выбараў або перавыбараў Управы БАЗА, таму што, 17ы Кангрэс пагвалціў выбарчыя законы ды ня ёсьць ўканстытутаваным, а ёсьць бязпраўным, таму ўнесла прапанову выбраць часовую Камісыю, падаючы пры гэтым наступную рэзалюцыю:

1. Старая Галоўная Управа падаецца да дэмісыі,
2. Выбраць часовую Камісыю, якая праверыць дзейнасьць папярэдняй Управы, падгатуе ды скліча новы Кангрэс, біручы пад увагу, дэмакратычныя прынцыпы выбараў, ўпісаныя да канстытуцыі БАЗА.

Рэзалюцыю Дэтроіцкай дэлегацыі Кангрэс адкінуў.

Пратакол з мінулага 16-га Кангрэсу чытаў Сп. Юрка Станкевіч. Прысутны пры гэтым Сп. М. Гарошка зьвярнуўся, пасьля прачытаньня пратаколу, да Старшыні Сходу Сп. М. Кунцэвіча з запытаньнем, каб яму пазволілі праслухаць цэлы працэс мінулага 16-га Кангрэсу з магнітафоннай стужкі, бо, тое, што мы чулі з прачытанага пратаколу мае вельмі мала супольнага з запраўдным зьместам 16-га Кангрэсу. Чытаньне з магнітафоннай стужкі пратаколу было недазволена, а Сп. В. Русак паробленыя ў пратаколе зьмены тлумачыў тым, што ў працэсе дыскусый ужываліся абразьлівыя закіды некаторым асобам, таму ён уважаў, што ў пратаколе неабходна было некаторыя месца згладзіць.

Сп. В. Русаку адказалі, што з перараобленага ці падгладжанага пратаколу ніхто ніколі не даведаецца, хто й для якіх мэтаў прычыніўся да пагвалчаньня правоў грамадзкай карпарацыі. Трэба ўсім нам добра памятаць, што нішчыць многа лягчэй, як будаваць.

Шаснаццаты Кангрэс БАЗА, які адбыўся ў травені 1975-га г. ў Гайлэнд Парк быў таксама нелегальна скліканы. Прыпомню толькі некаторыя праванарушэньні:

1. Паведамленьні аб агульным сходзе атрымалі толькі некаторыя асобы (13 сяброў) два дні да сходу.
2. Паведамленьня на агульны сход Акругі БАЗА разасланы з такім разьлікам, каб ня ўсе маглі прыняць удзел у выбарах дэлегатаў. На сходзе было прысутных усяго 13 сяброў (усех сяброў Акругі 50 асобаў).
3. Ня было кворум,
4. Вызначалі й галасавалі за кандыдатаў няпрысутных на сходзе, у той час, калі за прысутных не галасавалі.
5. Старшыня Акругі Сп. А. Шукелойць забраў ад Скарбніка Сп. В. М. касавую кнігу, каб не маглі праверыць, хто аплаціў сяброўскія складкі, а хто не.

Варта пры гэтым прыпомніць, што неаплата складак некаторымі сябрамі Акругі БАЗА ў 1964 г. была афіцыяльнай прычынай уневажненьня выбараў, ды падзел арганізацыі, а пазьней і падзел Прыходу Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Ніхто не запярэчыць, што каб не падзел БАЗА й Царквы Бруклінскага Прыходу, то ніколі не дашло-б да падзелу нашай адпачынковай Карпарацыі Белэр-Менск паміж двумя грэцкімі прыходамі.

### Клывэлэнд

Клывэлэнд войдзе да гісторыі БАЗА як апошні завершальны этап жыцьця слаўнай калісь беларускай арганізацыі ў ЗША. У Клывэлэнд была беззаконна перавыбрана няўдоленая да жыцьця „так званая" Галоўная Управа. Ейны склад: Сп. А. Шукелойць – Старшыня, Сп. Вячэслаў Станкевіч, Сп-шня Раіса Станкевіч, Сп. В. Русак, і Сп-ня Оля Запруднік. Рэдактарам Газэты „Беларуса" Др. Ст. Станкевіч, Рэвізыйная Камісыя Сп. Юрка Станкевіч. На Старшыні адзелаў: Сп. М. Кунцэвіч – Н. Ерк, Сп. С. Гутырчык – Ню Джэрзі, Сп. С. Карніловіч – Клывэлэнд, Сп. Янка Бруцкі – Дэтроіт. Увага: Старшыні аддзелаў не выбіраюцца на Кангрэсе.

### Тэхніка выбараў на 17м Кангрэсе БАЗА

У сувязі з тым, што на 17-м Кангрэсе ня было ніводнага дэлегата, апрача 2-х з Дэтройту, якія не галасавалі за старую ўправу – паўстае цяпер пытаньне хто-ж тагды галасаваў за перавыбары старое ўправы?

Зразумела, што на гэтае пытаньне можа быць толькі адзін адказ: Старая Управа галасавала сама за сябе.

*– К. Канцавы*



*Сяброўская сустрэча беларусаў з Дэтроіту, падчас пікніку, які быў зладжаны 4-га верасьня сёлета ў Клывэлэнд, Огаё.*

# Рознасьць думкі ня ёсьць варожасьць

Чым больш разьвітае грамадзтва, тым большая дыфэрэнцыяцыя ягонай думкі. У сучасных грамадзкіх ассоцыяцыях кажды чалавек – гэта іншы сьвет, але нягледзячы на гэта, нас лучаць агульныя вызваленчыя ідэі. „Адзінства ў рознасьці" да якога мы ўсе сяньня павінны імкнуцца.

У нашым грамадзтве ўкараніўся пагляд, што каждая беларуская арганізацыя можа разьвівацца ды пасьпяхова працаваць толькі тагды, калі ўсе ейныя сябры ідэялёгічна будуць мець аднолькавыя палітычныя й грамадзкія погляды. Кажды іншы падыход да агульна-грамадзкіх пытаньняў уважаецца непажаданым і навет варожым.



**Спадара Др. Юзіка Сажыца,**

*шчырага й адданага змагара за лепшую долю свайго НАРОДУ, шчыра вітае з 60-мі ўгодкамі Ягонага жыцьця, ды шчыра жадае Дастойнаму Юбіляру даўгога жыцьця й многа посьпехаў у Ягонай далейшай працы.*

Рэдакцыя газ. „ЧАС"

**ВЫПІСВАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ АДЗІНУЮ АНГЕЛЬСКА-БЕЛАРУСКУЮ ГАЗЭТУ „БЕЛАРУСКІ ЧАС"**